ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 20(5202)
Субота, 17 лютага 2001 года

Кошт у розніцу — 48 руб.

Актуаліі

## Школе — якасныя падручнікі

***У сучаснай айчыннай школе існуе больш за тысячу найменняў падручнікаў. Звычайны тэрмін карыстання падручнікам — чатыры-пяць гадоў, таму штогод многія з іх даводзіцца перавыдаваць.***

***Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. Вёў пасяджэнне намеснік міністра адукацыі кандыдат педагагічных навук Генадзь Дылян. Рэформа агульнаадукацыйнай школы патрабуе і новых вучэбных планаў, праграм, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.***

Члены Дзяржаўнай камісіі разгледзелі вучэбныя праграмы па гісторыі для 4 — 5 класаў агульнаадукацыйных школ з 12-гадовым тэрмінам навучання, абмеркавалі рукапісы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў: “Гісторыя Беларусі”, вучэбны дапаможнік для вучняў 4 класа школы з 12-гадовым тэрмінам навучання; “Гісторыя Беларусі”, вучэбны дапаможнік для вучняў 9 класа агульнаадукацыйнай школы; “Геаграфія Беларусі”, вучэбны дапаможнік для вучняў 9 класа з паглыбленым вывучэннем геаграфіі; “Рабочы сшытак па гісторыі. 6 клас”, дапаможнік для вучняў 6 класа агульнаадукацыйнай школы”; “Гісторыя культуры Беларусі”, вучэбны дапаможнік для студэнтаў негістарычных спецыяльнасцей ВНУ; “Філасофія”, вучэбны дапаможнік для студэнтаў ВНУ; “Чалавек і грамадства”, вучэбны дапаможнік для студэнтаў факультэтаў даінстытуцкай падрыхтоўкі вышэйшых навучальных установ.

Па навуковасці, сістэмнасці і багацці зместу гэтыя вучэбныя дапаможнікі, на думку доктара гістарычных навук прафесара Уладзіміра Кошалева, адпавядаюць усім строгім патрабаванням для такога роду кніг. У іх аснову пакладзены, у першую чаргу, маральна-этычны падыход да адлюстравання гістарычных падзей.

З інфармацыяй аб праектах вучэбных праграм па літаратуры для вучняў 4 — 5 класаў агульнаадукацыйнай сярэдняй школы з 12-гадовым тэрмінам навучання выступіў кіраўнік філалагічнай секцыі Дзяржаўнай камісіі дэкан факультэта рускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка прафесар Анатоль Бардовіч.

Члены камісіі разгледзелі і абмеркавалі рукапісы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па літаратуры: “Беларуская літаратура”, падручнік-хрэстаматыя для вучняў 4 класа 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання; “Беларуская літаратура”, хрэстаматыя для вучняў 9 класа агульнаадукацыйных школ; “Беларуская літаратура”, вучэбны дапаможнік для вучняў 10 класа агульнаадукацыйных школ з паглыбленым вывучэннем беларускай літаратуры, для гімназій і ліцэяў.

— У аснову гэтых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, — заўважыў загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ доктар філасофскіх навук прафесар Вячаслаў Рагойша, — пакладзена канцэпцыя літаратурнай адукацыі ў нашай краіне, а адбор твораў для вучняў ажыццёўлены па крытэрыях мастацкасці, з улікам узроставых і псіхалагічных асаблівасцей школьнікаў ва ўспрыманні мастацкага тэксту.

Падводзячы вынікі пасяджэння Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў, намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян адзначыў, што рэформа школы — доўгачасовая з’ява, і штогод будзе ўводзіцца адна паралель новых вучэбных планаў, вучэбных праграм, новых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, якія пройдуць выпрабаванне практыкай у школах рэспублікі.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

## 450 дзяцей Ніны Уладзіміраўны



Шэсць гадоў працуе дырэктарам дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра “Пралеска” Жлобінскага раёна Ніна Уладзіміраўна Скрыпнікава. За гэты час піянерскі летнік і база адпачынку Жлобінскай фабрыкі штучнага футра ператварыліся ў найбуйнейшы ў рэспубліцы аздараўленчы комплекс. У цэнтры ёсць добрая лячэбная база, вучэбныя класы, пакоі гуртковай работы. У змену тут папраўляе здароўе каля 450 дзяцей з раёнаў, што пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар цэнтра Ніна Уладзіміраўна Скрыпнікава з дзецьмі.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

## Полацкі доктар з Прагі

***У снежні мінулага года ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь адбылася ўрачыстасць з нагоды ўручэння вядомай чэшскай славісткі і скарыназнаўцы Францішкі Сокалавай дыплома Ганаровага доктара Полацкага дзяржуніверсітэта. На пасяджэнні з прамовамі выступілі міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў, рэктар Полацкага дзяржуніверсітэта Эрнст Бабенка і прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс.***

Рашэнне вучонай рады Полацкага дзяржуніверсітэта аб прысуджэнні ганаровага звання — гэта высокая ацэнка асабістага ўкладу Ф.Сокалавай у даследаванне гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Сярод прац, якія выйшлі з-пад яе пяра, — “Беларускія старадрукі ў чэшскіх бібліятэках”, “Вывучэнне жыцця і дзейнасці Ф.Скарыны чэшскімі даследчыкамі”, “Францішак Скарына ў працах чэшскіх славістаў”, “Скарына і Прага”, “Кірылічныя выданні ў чэшскіх бібліятэках” і іншыя.

Уручэнне Францішцы Сокалавай дыплома Ганаровага доктара Полацкага дзяржаўнага універсітэта — яскравае сведчанне імкнення і надалей умацоўваць сяброўскія адносіны паміж беларускім і чэшскім народамі.

**Васіль ШАЙКОЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага універсітэта.**

## Навіны

### Ільготы для медалістаў

***У правілах прыёму ў ВНУ на 2001 год ёсць шэраг новаўвядзенняў.***

Цяпер кожная ВНУ будзе самастойна вызначаць ільготы для тых, хто закончыў школу з залатым альбо срэбраным медалём. Тое ж самае датычыцца і выпускнікоў ПТВ і тэхнікумаў, якія атрымалі дыпломы з адзнакай. Такія новыя правілы прыёму ў дзяржаўныя навучальныя ўстановы нашай краіны на 2001 год зацверджаны Міністэрствам адукацыі.

### Школа года

***Нядаўна Гомельскае гарадское ўпраўленне адукацыі падвяло вынікі конкурсу на лепшую школу года.***

Першае месца сярод навучальных устаноў, якія маюць больш як 35 класаў, падзялілі паміж сабой сярэднія школы № 10 і 61, на другім месцы сярэдняя школа № 15.

А лепшай малакамплектнай школай прызнана сярэдняя школа № 5.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**

### Прэмія імя дырэктара

***У гімназіі №4 Смаргоні ўстаноўлена прэмія імя яе былога дырэктара Б.М.Сіневіча. Яна прысуджаецца выкладчыкам за поспехі ў вучэбна-выхаваўчай рабоце і развіцці дзіцячых талентаў. Адпаведнае рашэнне прыняў Смаргонскі райвыканкам.***

Адным з першых неабходныя сродкі на прэмію пералічыў завод аптычнага станкабудавання. А лаўрэатам прэміі імя Б.М.Сіневіча стала выкладчыца матэматыкі Лідзія Бутырская. Прыклад, што і казаць, варты пераймання і ў іншых раёнах.

### Вучылішча стане ліцэем

***У маладзечанскім ПТВ-21 вядзецца стварэнне ліцэйскіх груп.***

Адна ўжо дзейнічае, а з будучага навучальнага года з’явяцца яшчэ дзве — па спецыяльнасцях “Майстар аддзелачных работ” і “Повар-кандытар”.

### Піянеры, гайды і скаўты спяваюць разам

***Сустрэча прадстаўнікоў дашкольных дзіцячых устаноў Маладзечна пад назвай “Спяваем разам з сябрамі” прайшла ў сярэдняй школе №12. У музычнай імпрэзе ўдзельнічалі піянеры з сярэдніх школ №№1, 3, 9, гайды і скаўты.***

Гучалі песні, выконваліся танцавальныя нумары. Напрыканцы сустрэчы лідэры кожнай маладзёжнай арганізацыі атрымалі дыпломы і сувеніры.

**Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.**

Пішыце ў сваю газету!

## “Пра што б хацелася сказаць на II з’ездзе настаўнікаў Беларусі”

Паважаныя настаўнікі! У канцы чэрвеня мяркуецца правесці II з’езд настаўнікаў Беларусі. Вялікі педагагічны форум абмяркуе зробленае па абнаўленні сярэдняй агульнаадукацыйнай школы, вызначыць надзённыя задачы па ўдасканаленні сістэмы агульнай сярэдняй адукацыі. Зразумела, што не кожны настаўнік будзе дэлегатам з’езда, але кожны з вас мае магчымасць выказаць свае думкі і прапановы ў “Настаўніцкай газеце”.

Неўзабаве на старонках “НГ” з’явіцца новая рубрыка — “Пра што б хацелася сказаць на II з’ездзе настаўнікаў Беларусі”. Пішыце нам пра ўсё, што вас клапоціць і хвалюе, а таксама пра свой педагагічны вопыт. Чакаем вашых пісьмаў!




13 лютага ў Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры “БелЭКСПО” адкрылася “Беларуская кніжная выстава-кірмаш 2001”. У ёй прынялі ўдзел выдавецтвы Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі і Літвы.

Адкрыў выставу старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны.

НА ЗДЫМКУ: падчас адкрыцця выставы.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**

На шляхах рэформы

## Для моцных і для слабых

***Даўно вядома сваімі традыцыямі ў Брэсце сярэдняя школа № 2 з паглыбленым вывучэннем іспанскай мовы: творчы калектыў, добрая па сённяшнім часе матэрыяльна-тэхнічная база і, галоўнае, ёсць рэзультатыўнасць у рабоце. На працягу многіх гадоў школа дае добрыя веды вучням: толькі ў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт штогод паступаюць па 7-8 дзяцей, не кажучы ўжо пра іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вучні школы пастаянна займаюць прызавыя месцы на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах.***

Але жыццё ўносіць свае карэктывы нават і ў добра спланаваны навучальна-выхаваўчы працэс. Творчая група настаўнікаў сумесна з дырэкцыяй школы зрабіла выснову, што вывучаць адну іспанскую мову недастаткова. Таму ў 1999 годзе на базе школы была створана лінгвістычная гімназія, структура якой дае магчымасць вывучаць некалькі замежных моў на паглыбленым узроўні і здольная задаволіць запыты вучняў і іх бацькоў. Кантынгент вучняў у асноўным складаюць жыхары мікрараёна горада, і гэта немалаважна, бо ўсе вучні атрымалі магчымасць вучыцца ў гімназіі. Тут выкладаюцца тры замежныя мовы (іспанская, англійская і нямецкая) з падрыхтоўчага класа на паглыбленым узроўні. Вучні выбіраюць для вывучэння адну з гэтых моў. У якасці другой мовы з шостага класа па выбары вывучаецца іспанская, англійская альбо польская мова. Навучанне мовам у гімназіі базіруецца на выкарыстанні сучасных педтэхналогій, у прыватнасці тэхналогій асобасна арыентаванай і рознаўзроўневай.

Пад рознаўзроўневым навучаннем, як вядома, разумеецца такая арганізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу, пры якім кожны вучань мае магчымасць авалодваць вучэбным матэрыялам на розным узроўні — у залежнасці ад сваіх здольнасцей і індывідуальных магчымасцей.

Рознаўзроўневае навучанне ў гімназіі ажыццяўляецца шляхам знешняй і ўнутранай дыферэнцыяцыі. Пры знешняй дыферэнцыяцыі клас дзеліцца на трохузроўневыя групы ў залежнасці ад ступені навучанасці вучняў, іх здольнасцей і інтарэсаў. Фарміраванне груп па трох узроўнях пачынаецца ў трэцім класе. Групы з’яўляюцца рухомымі, магчымы перавод з адной групы ў другую па выніках работы вучняў у чвэрці і за год, а таксама па жаданні бацькоў. Навучанне замежным мовам па трох узроўнях стварае ўмовы для развіцця асобы кожнага дзіцяці. Пры такой сістэме паяўляецца неабходнасць вызначыць базавы ўзровень для таго, каб дабіцца належнай рэзультатыўнасці і вызначыць узровень ведаў, уменняў і навыкаў для розных груп навучання.

У гэтай сітуацыі базавым узроўнем навучанасці замежнай мове з’яўляецца праграма для школ з паглыбленым вывучэннем яе. У адпаведнасці з патрабаваннямі праграмы вучні 9 — 11 класаў павінны выказвацца па пэўнай тэме ў аб’ёме 20 сказаў, што адпавядае базаваму ўзроўню.

Дыферэнцыяванае навучанне па трох узроўнях дае магчымасць дайсці да кожнага вучня, дабіцца трывалага засваення матэрыялу, арганізаваць навучанне па здольнасцях вучняў. У такіх групах ствараюцца больш спрыяльныя ўмовы для работы як са слабымі, так і з моцнымі вучнямі, што дае добрыя вынікі: веданне прадмета, развіццё асобы. Увядзенне такой арганізацыі навучання замежнай мове прыводзіць да неабходнасці распрацоўкі канкрэтных патрабаванняў да авалодання мовай на кожным узроўні, удакладнення праграм навучання, распрацоўкі крытэрыяў размеркавання вучняў па адпаведных узроўнях, крытэрыяў ацэнкі эфектыўнага навучання.

Практычна ўсе гэтыя праблемы педагагічны калектыў гімназіі вырашае самастойна. Складзена каляндарнае планаванне па трох узроўнях, зроблены тэматычныя распрацоўкі, створана відэатэка. Ажыццяўляецца сістэматычны падбор цікавага дадатковага матэрыялу. Дырэкцыя школы пастаянна праводзіць вялікую метадычную работу з настаўнікамі па арганізацыі навучання па трох узроўнях. Практыка паказвае, што выкарыстанне тэхналогіі рознаўзроўневага навучання адкрывае практычна неабмежаваныя магчымасці для пашырэння і паглыблення навучальнага матэрыялу, павышае якасць ведаў вучняў, раскрывае іх здольнасці.

Вопыт работы настаўнікаў замежных моў лінгвістычнай гімназіі па выкарыстанні тэхналогіі рознаўзроўневага навучання зацікавіў калег на злёце настаўнікаў-наватараў Брэста і Брэсцкай вобласці і на міжнароднай канферэнцыі, якая праходзіла ў Мінску з 10 па 13 снежня 2000 года па праблеме вывучэння замежных моў на сучасным узроўні.

**Іпеса ЖОГЛА,**
**начальнік аддзела гуманітарных дысцыплін Брэсцкага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі педагогаў.**

